# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 24 верасьня 1932 г. № 26 (51)

## Вывады.

Канфлікт, які паўстаў паміж беларускім грамадзянствам і школьнымі ўладамі ў справе беларускіх гімназіяў, закончыўся. *Гімназіі з рук грамадзянства перайшлі ў рукі дзяржавы.* І цяпер ад сілы грамадзянства, ад згодлівасьці яго і ўнутранага адзінства будзе залежаць адказ на *пытаньне аб далейшем лёсе гэтых гімназіяў.* Калі мы ўсе, бяз розьніцы палітычных кірункаў, згуртуемся ў дружным высілку захаваць нашыя гімназіі, як беларускія нацыянальныя пляцоўкі, калі выяўленьне нашае нязломнае волі ў гэтым кірунку сустрэнецца з лёяльнымі адносінамі школьных уладаў, дык гімназіі ня толькі ня страцяць свайго дасюлешняга запраўды беларускага характару, але к наступнаму школьнаму году з філіяў (аддзелаў) іншых гімназіяў ператворацца ў *зусім самастойныя.* Трэба толькі, каб і нашыя вясковыя масы заварушыліся, каб і яны напружылі свае сілы і чым больш дзяцей слалі ў беларускія гімназіі. Трэба, каб тыя, хто сёлета пад уплывам нясумленнае агітацыі нашых ворагаў паслаў дзяцей у польскія дзяржаўныя гімназіі, паправілі сваю абмылку й перавялі іх у свае беларускія гімназіі, адгэтуль таксама ўжо дзяржаўныя, таксама *поўнапраўныя*, як і польскія дзяржаўныя гімназіі.

Увесь ход канфлікту і вынік яго паказаў, як трудна нашаму грамадзянству пры сучасным яго стане бараніць свае культурна-нацыянальныя пазыцыі. І гэта датыча ня толькі гімназіяў, але і ўсіх іншых культурных пляцовак: без агульнага падтрыманьня з боку ўсяго грамадзянства — кожнай з іх пагражае раней ці пазьней ліквідацыя, або — што яшчэ горш — самаліквідацыя. І атрыманая навука не павінна прайсьці для нас бясьсьледна. Мы ўсе мусім урэшце зразумець, што беларускія культурныя пляцоўкі, незалежна ад таго, якая палітычная група імі кіруе, ёсьць *агульна-нацыянальныя цэннасьці*, што кожнае варожае да іх выступленьне з боку палітычных праціўнікаў ёсьць *нацыянальнае самагубства*, ёсьць *найцяжэйшы праступак проці свайго народу*. Мы павінны не абніжаць павагу гэтых пляцовак у вачох масаў нясумленнай зьвягай на іх кіраўнікоў — выключна з прычыны палітычнага разыходжаньня з імі, а, наадварот, павінны *ўзгадаваць у масах пашану да творчае культурнае працы і нашых кіраўнічых культурных цэнтраў*, а таксама да тых *людзей*, якія сваей ахвярнай працай твораць падставу нашага нацыянальнага быту — *беларускую культуру*.

Вось вывады, якія самі сабой выплываюць з пражытага намі за апошнія месяцы, або правільней — за апошнія гады. Няхай жа нашае грамадзянства зробіць усё неабходнае, каб такіх балючых лекцыяў у нас больш ня было

## Японска-кітайская вайна.

Новая вайна Японіі з Кітаем за Манчжурыю разгараецца ўсё шырэй, пагражаючы ўцягнуць у вагонь ня толькі СССР, але і Амэрыку.

Перад блізкай ужо чарговай гадавой агульнай зборкай Лігі Нацыяў, якая заўсёды адбываецца ў верасьні, і на якой мела быць разглядана ведамая справаздача дасьледчай камісіі, высланай у свой час Лігай Нацыяў у Манчжурыю (так-зван. камісія Ляйтона), Японія апынулася ў вельмі клапатлівым палажэньні. Бо-ж, з аднаго боку, камісія Ляйтона (прэзэс—англіец) сьцьвярджае ў нячуваных рэзкіх і рашучых выразах ня толькі зачэпную ролю Японіі ў Манчжурыі, але і правакацыйную тактыку яе адносна да СССР. З другога боку, кітайскі ўрад, асьмелены дакладам камісіі, а так сама яўным падтрыманьнем Амэрыкі і СССР, распачаў шырокую падрыхтоўку проці-японскай акцыі. Ня гледзячы на шанхайскую ваенна карную апэрацыю Японіі, быццам змусіўшай тады кітайскі ўрад спыніць байкот японскіх тавараў, байкотны проці-японскі рух ахапіў ізноў увесь Кітай з нябывалай сілай. Адначасна значныя кітайскія сілы (як пішуць японскія газэты, „банды партызанаў“) падышлі да Мукдэну і распачалі атаку на гэтую сталіцу Манчжурыі. Крывавыя бai ідуць ужо на вуліцах ня толькі Мукдэну, але і блізу ўсіх іншых буйнейшых местаў Манчжурыі, як Харбін, Кірын і інш. Характэрна, што адна па адной буйныя часткі арміі манчжурскага ўраду бунтуюцца проці сваіх камандзіраў, забіваюць іх і пераходзяць на бок кітайскіх „бандаў“. Адначасна ўзнавіўся па ўсім краю нячуваны тэрор проці японцаў. Партызаны затрымліваюць японскія цягнікі, грабяць іх, забіваючы японцаў. А толькі што двойчы зроблены быў аружны напад і на цягнік самога галоўнага камандзіра ўсіх японскіх войск у Манчжурыі, ген. Хоніо, які толькі цудам уцалеў.

Усё гэта павінна будзе змусіць Лігу Нацыяў прыняць рашучыя меры, каб падтрымаць сваю павагу і справу міру, тым больш, што Амэрыка заявіла, што будзе супрацоўнічаць з Лігай у гэтай справе.

Але Японія дэманстрацыйна заяўляе і паказвае, што ня думае зьвяртаць увагу на Лігу Нацыяў дый на тое абурэньне якое ахапляе блізу ўвесь сьвет проці японскай акцыі ў Кітаі. Ня гледзячы на пратэсты вялікіх дзяржаваў, не зважаючы на рад міжнародавых трактатаў, гарантуючых нятыкальнасьць тэрыторыі Кітаю, падпісаных паміж іншымі і Японіяй, апошняя 15 верасьня афіцыяльна прызнала Манчжурыю „незалежнай“ дзяржавай, заключыўшы з ёй трактат, які фактычна аддае Манчжурыю цалком пад уладу Японіі. Акт гэты, ня гледзячы на тое, што даўно быў падрыхтаваны японскай дыплёматыяй, выклікаў новую хвалю абурэньня як у Эўропе, так сама і ў Амэрыцы. Зразумела-ж, першы Кітай зараз-жа выслаў ноты пратэсту у Японію, а таксама ўсім вялікім дзяржавам і ў Лігу Нацыяў, трэбуючы ад іх прыняцьця рашучых мераў проці гвалтаўніка. Лізе Нацыяў і дзяржавам Японія падсунула вельмі цьвёрды гарэх, на якім яны могуць лёгка паламаць сабе зубы. Японія адкрыта заяўляе, што справу Манчжурыі яна лічыць вырашанай раз назаўсёды і, калі Ліга Нацыяў ня стане на гэты пункт гледжаньня, тады Японіі няма што рабіць у Лізе...

Што зробіць Ліга, ня будзем гадаць. Можна толькі думаць, што ні адна з вялікіх дзяржаваў ня выступіць аружна проці Японіі, бо стратэгічнае палажэньне Японіі робіць яе блізу цалком недаступнай для ваеннага нападу. Трэба сьцьвярдзіць толькі нязвычайна важны факт, што нячувана зачэпная акцыя Японіі спатыкае ўсё больш энэргічную контр-акцыю з боку Кітаю. Прызнаньне Манчжурыі выклікала новую хвалю абурэньня, якое ўзварушыла ўвесь Кітай. Кітайскія газэты пішуць, што кітайскі народ не паложыць аружжа, пакуль хаця адзін японскі жаўнер будзе стаяць на кітайскай зямлі. На новы ўдар Кітай адказаў нячуваным узмацненьнем байкоту і паўстанчай акцыі проці японцаў. Найвялікшая кітайская газэта піша, што, калі вялікія дзяржавы, гарантаваўшыя граніцы Кітаю, ня споўняць свайго абавязку, тады—Кітаю астанецца толькі заключыць саюз з СССР.. Такім чынам, як бачым, вайна зацягнецца надоўга. Бо-ж, калі вялікія дзяржавы і ня выступяць самі адкрыта проці Японіі, дык бясспрэчна некаторыя з іх, а ў першым радзе Амэрыка, СССР, а можа й Англія ды Нямеччына, будуць памагаць Кітаю аружжам і амуніцыяй, каб кітайскімі рукамі чым больш аслабіць свайго магутнага дый небясьпечнага канкурэнта — Японію. Таму Японія, разумеючы гэта, хоча чым хутчэй застрашыць Кітай і прымусіць яго да капітуляцыі. Японскі флёт заняў блізу ўсе порты Кітаю, а 16 верасьня сільны атрад марской пяхоты, высадзіўшыся з японскай эскадры, заняў сталіцу Кітаю-Нанкін, дзе жыве ўрад. Апошняя вестка, праўда, яшчэ не пацьверджана.

Трэба аднак-жа, апіраючыся на прыкладзе няўдалай шанхайскай апэрацыі, думаць, што тактыка „маланкавага ўдару“ і цяпер ня ўдасца Японіі, дый яна глыбака й надоўга загразьне ў заварану ёй лішне ўжо крута крывавую кашу ў Кітаі. Людзей у Кітаі хопіць аж надта, аружжа і грошаў дадуць ім у рукі, колькі будзе патрэбна, „прыяцелі“ Японіі—вялікія дзяржавы. Бо-ж гэта для іх—падвойная карысьць: і падаб'юць канкурэнта, і знойдуць лек на безработоцьце, прынамся на фабрыках, вырабляючых ваенныя матэр'ялы... Вось будзем мець хіба-ж і — „выхад з крызісу“...

